№ 224 (1787)
Чацвер , 27 лістапада 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +6...+8, дождж, уначы — +5...+7, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +8...+10, дождж, уначы — +7...+8, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +7...+9, уначы — +7...+9, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — +5...+7, дождж, уначы — +4...+6, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +5...+7, уначы — +2...+4, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +6...+8, уначы — +4...+6, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Гуляка ў Кітаі

Афіцыйная дэлегацыя Міністэрства культуры Беларусі на чале з міністрам Леанідам Гулякам прыбыла 25 лістапада ў Кітай. Мэта візіту — абмеркаванне пытанняў беларуска-кітайскага культурнага супрацоўніцтва і ўдзел у адкрыцці Дзён культуры Беларусі, якія пройдуць у гэтай краіне 26 лістапада — 2 снежня.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## 17 мільёнаў долараў ЗША атрымае Міністэрства аховы здароўя

Глабальны фонд па барацьбе са СНІДам, туберкулёзам і малярыяй ухваліў заяўку Беларусі на атрыманне фінансавай дапамогі ў суме 17 мільёнаў долараў ЗША. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў намеснік міністра аховы здароўя Беларусі, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач **Валерый КЛЮЧАНОВІЧ.**

Паводле яго слоў, грант для рэалізацыі праграмы па барацьбе з эпідэміяй ВІЧ/СНІД будзе ісці ў Беларусь на працягу пяці гадоў. Атрыманне першага траншa ў суме 6 мільёнаў долараў чакаецца ў будучым годзе. Гэтыя грошы пойдуць на лячэнне ВІЧ/СНІД, развіццё лабараторнай базы, падтрымку грамадскіх арганізацый, на прафілактычную і выдавецкую працу. Мяркуецца, што выдзеленымі сродкамі будзе распараджацца Міністэрства аховы здароўя.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Украінцы падтрымліваюць беларускіх ліцэістаў

Ва Украіне ідзе збор подпісаў у падтрымку навучэнцаў Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа да дэпутатаў Вярхоўнай Рады.

Як паведаміў старшыня вучнёўскага самакіравання ліцэя Франак Вячорка, акцыя пачалася падчас паездкі дэлегацыі ліцэістаў у Кіеў. Яна праходзіла з 21 па 23 лістапада па запрашэнні ўкраінскіх студэнтаў.

За ініцыятыву звярнуць увагу дэпутатаў украінскага парламента на сітуацыю вакол беларускага ліцэя і па магчымасці садзейнічаць вырашэнню яго праблем ужо падпісаліся больш за тысячу чалавек. Сярод іх — кіраўнікі палітычных партый, грамадскіх арганізацый, прадстаўнікі ўкраінскай інтэлігенцыі.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Мужная гандлярка

Прадавец сельскай крамы вёскі Гусакі Маларыцкага раёна (Брэсцкая вобласць) Ала Пукета атрымала прэмію Упраўлення ўнутраных спраў Брэсцкага аблвыканкама. 100 тысяч рублёў ёй уручыў начальнік Маларыцкага РАУС Валерый Грачук.

Такім чынам брэсцкая міліцыя адзначыла жанчыну, якая праявіла мужнасць пры ўзброеным нападзе на краму.

29 верасня апоўдні ў магазін зайшлі мужчына і жанчына, узброеныя газавым пісталетам. Яны запатрабавалі выручку і выпіўку, аднак прадавец адмовілася выконваць іх патрабаванні. Тады рукаяткай пісталета прадаўца неаднаразова ўдарылі па галаве. Апрытомнеўшы, жанчына здолела вырваць у злачынцаў сумку, у якую былі складзены грошы з касы і спіртное. Яна таксама запісала нумар аўтамабіля, на якім збеглі рабаўнікі, і адразу ж патэлефанавала ў міліцыю.

Мужчына і жанчына, якія ўчынілі ўзброены напад на сельмаг, былі затрыманы ў той жа дзень у дачным кааператыве непадалёк ад Брэста.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Больш не будзе займацца разбоем

У Наваполацку ўдалося затрымаць злачынцу, які нападаў на аўтаўладальнікаў.

Ён быў затрыманы пры спробе ўчыніць чарговы, трэці за месяц па вобласці, напад. Злачынцу затрымаў сам вадзіцель легкавой машыны, які аказаўся супрацоўнікам Наваполацкага гараддзела міліцыі.

Пры вобыску ў кватэры бандыта знойдзены і канфіскаваны два самаробных прыстасаванні, прыдатныя для стральбы, 100 грамаў пораху і 20 грамаў какаіну.

**Сяргей КОЧАТАЎ.**

## Злавілі аўтазлодзеяў

Серыю ўгонаў аўтамабіляў раскрылі супрацоўнікі наваполацкай міліцыі. Позна ўначы 20 лістапада затрымалі двух маладых людзей 18 і 19 гадоў, якія спрабавалі скрасці "Аўдзі-100".

Як аказалася, літаральна за паўгадзіны да гэтага яны ўгналі аўтамабіль "Опель Аскона". Пры гэтым юныя кіроўцы не далі рады кіраванню і на дарозе з Наваполацка ў бок ААТ "Нафтан" з'ехалі ў кювет, дзе і кінулі машыну. Між іншым, адзін з двух злодзеяў падазраецца ва ўчыненні яшчэ некалькіх угонаў, учыненых на тэрыторыі горада восенню.

Разам з тым транспартныя сродкі, а таксама іх часткі карыстаюцца ўстойлівым попытам у злачынцаў у Наваполацку. Так, увечары 19 лістапада ў двары дома № 20 па вуліцы Маладзёжнай былі затрыманы два жыхары горада, якія адкрылі капот у машыны "ВАЗ-21011" і забралі акумулятар. Яшчэ два 18-гадовыя хлопцы знялі колы з двух аўтамабіляў "ВАЗ" у мікрараёне Васілеўцы, а затым у двары аднаго з дамоў па вуліцы Блахіна. Там іх і затрымалі супрацоўнікі міліцыі.

Па статыстыцы, прыкладна 95 працэнтаў скрадзеных аўтамабіляў не былі абсталяваны ахоўнай сігналізацыяй.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

**ГЛЫБІНКА**

## Супраць лома няма прыёму?

Апошнім часам злодзеі на Случчыне асвоілі майстэрства ўзлому цагляных сцен з дапамогай звычайнага лома. Такім чынам невядомыя налётчыкі пранiклі ў магазін у вёсцы Бокшыцы, вынеслі адтуль спіртных напояў і розных прадуктаў аж на 2 мільёны 100 тысяч рублёў.

Праз зробленую ломам дзірку ў сцяне памяшкання на цукрова-рафінадным камбінаце невядомы налётчык вынес лічыльнік халоднай вады коштам 1 мільён 11 тысяч рублёў. "Ламавікі" дагэтуль так і не знойдзены.

## «Усяго» за 1000 долараў...

Напярэдадні чарговай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі да адзінокай пенсіянеркі Т. у вёсцы Амговічы Слуцкага раёна завітала жанчына, якая з парога прапанавала "зняць насланнё" з гаспадыні, пазбавіць яе ад усялякіх хваробаў і напасцяў.

Калі госця пакінула хату, гаспадыня зазірнула ў сваю сумку і не знайшла там 1000 прыхаваных долараў. Яны апынуліся ў руках спрытнай махляркі. Словам, "вылечылася" даверлівая вяскоўка за кругленькую суму.

## Не хадзіць жа нямытым

Паводле інфармацыі, якая была агучана на пасяджэнні Слуцкага райвыканкама, з 79 грамадскіх лазняў на тэрыторыі трыццаці калгасаў працуе толькі 26. Астатнія патрабуюць грунтоўнага рамонту, на які, як правіла, грошай не знаходзіцца, або спісаны з-за поўнага развалу ці "гуляюць" з-за адсутнасці паліва.

У Кіраўскім сельсавеце (17 вёсак) з дзесяці лазняў працуе толькі адна. Ніводная з трох не дзейнічае на тэрыторыі Бокшыцкага і Знаменскага сельсаветаў, дзе больш за 20 паселішчаў. Сёй-той з вяскоўцаў махнуў рукой на гэтае бязладдзе і стаў майстраваць уласныя лазні. Такіх у раёне ўжо 546! Дорага, праўда, але што рабіць? Не хадзіць жа нямытым.

**Мікола КУТНЯВЕЦКІ.**

*г. Слуцк.*

**ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ**

# Параза

### Чаму ў акцыі, абвешчанай незарэгістраванай арганізацыяй «Малады фронт», прыняло ўдзел так мала людзей

Незарэгістраваная арганізацыя "Малады фронт" правяла акцыю "Мы супраць будучага рэферэндуму". На сталічнай плошчы Якуба Коласа сабралася некалькі дзесяткаў чалавек. На выхадзе з плошчы на праспект Скарыны шэсце спынілі супрацоўнікі АМАПа. 17 актывістаў былі затрыманы.

Атрымаўшы такую інфармацыю агенцтва БелаПАН, мы пачалі рыхтаваць яе да друку. Але задумаліся: а што ж, уласна кажучы, адбылося? Ды нічога значнага. Ну, выйшла на плошчу групка маладых людзей... Ну і што? Такое паведамленне можа зацікавіць хіба што саміх удзельнікаў акцыі.

Мы не сталі друкаваць гэту дробную інфармацыю. А вось паразважаць, відаць, варта. Бо ў ёй, нібы ў кроплі вады, адлюстравана слабасць і нашай апазіцыі, і нашай улады.

Тэма ж акцыі надзвычай важная. У грамадстве спее незадаволенасць намерамі ўлады правесці рэферэндум па змене Канстытуцыі, што можа дазволіць Лукашэнку балатавацца на чарговы тэрмін прэзідэнцтва. Агульнавядома, што ў цывілізаваных краінах больш як два тэрміны найвышэйшую пасаду нікому не дазволена займаць. А ў нас жа збіраюцца працягваць паўнамоцтвы Аляксандра Рыгоравіча аж да 17 гадоў. І гэта ў той час, калі нацыя літаральна вымірае. Было больш за дзесяць мільёнаў чалавек, цяпер — значна менш. Для вялікай часткі насельніцтва жыццё пагаршаецца з кожным днём. Співаецца не толькі вёска, дэградуюць райцэнтры, буйныя гарады.

Сапраўды, як тут не біць у званы! Пра які трэці тэрмін прэзідэнцтва А.Лукашэнкі можна весці гаворку! Усім зразумела — сённяшняя ўлада даўным-даўно абанкруцілася.

Здавалася б, уся краіна павінна была падтрымаць ініцыятыву "Маладога фронту". Тым больш што гарадскія ўлады далі дабро на акцыю, змяніўшы толькі месца яе правядзення: шэсце — па вуліцы Кульман, мітынг — на плошчы Бангалор.

Дык чаму ж такой малакольскай аказалася акцыя "Мы супраць будучага рэферэндуму"? Відаць, таму, што кожны — толькі за сябе. Кожны "генсек" невялікай групкі надзімае шчокі і лічыць сябе ледзь не лідэрам нацыі. Але пры гэтым не ў стане асэнсаваць і зразумець простую ісціну: кожны з іх сам па сабе — нішто, ці, як пісаў вядомы савецкі паэт, "единица — ноль, единица — вздор". Сіла любой апазіцыі — у адзінстве. У нас ужо прыкладна дзесяць гадоў вядуцца размовы аб адзінстве дзеянняў, а іх як не было, так і няма. Балбатня замяняе справы.



*Нічога не даб'ешся, калі на аднаго пратэстуючага — два міліцыянты.*

**Фота ByMedia.net**

Вось яна, асноўная слабасць беларускай апазіцыі — у адсутнасці лідэраў, якія б разумелі простыя ісціны. У Грузіі яны знайшліся і выступілі адзіным фронтам. А да гэтага добры ўрок быў дадзены ў былой ГДР, у Польшчы, Чэхіі, Балгарыі, Югаславіі, Румыніі... Відаць, ён да нас яшчэ не дайшоў.

Цяжка зразумець і ўлады, якія паслалі АМАП, каб ён размахваў дубінкамі. Няўжо некалькі дзесяткаў юнакоў і дзяўчат, якія сабраліся на мітынг, няхай сабе і ў недазволеным месцы, уяўлялі нейкую небяспеку для грамадскага ладу? Чаго спужаліся? А спужаліся, відаць, не на жарт, калі паслалі АМАП. Што ж гэта за ўлада, якая так моцна баіцца ўсяго, нават невялічкай групкі моладзі? Напэўна, мае рацыю актывіст Павел Севярынец, які ў каментарыі БелаПАН заявіў, што ўлада "баіцца ўсялякіх, нават нязначных праяў супраціўлення".

Канешне, затрыманнямі ўлада імкнецца запужаць моладзь, дабіцца таго, каб юнакі і дзяўчаты не выходзілі на падобныя акцыі. І ёй гэта ўдаецца. Так што партыі і рухі, якія праігнаравалі выступленне моладзі, найперш нашкодзілі сабе, бо на іхнія акцыі таксама прыйдзе няшмат людзей. Многія падумаюць: няма сэнсу падстаўляцца пад дубінкі, пачакаем, калі на вуліцы выйдзе ўвесь народ...

Разважаючы аб паразах апазіцыі, прыходзіш да высновы — перамог не будзе да таго часу, пакуль лідэры так званай апазіцыі не зразумеюць, што такімі непадрыхтаванымі акцыямі, калі на мерапрыемства выходзіць толькі 30—40 чалавек (няхай сабе і тысяча), яны льюць ваду на мельніцу рэжыму. Вечарам штатныя прапагандысты вылазяць на экраны тэлевізараў і з'едліва даносяць да шырокіх мас, маўляў, глядзіце, зноў кучка "отморозков" выйшла на плошчу. Людзей прывучаюць да думкі, што не трэба ўдзельнічаць у нейкай там акцыі, якую "не падтрымлівае народ".

У той жа час ва ўсім свеце лічыцца, што мітынгі, шэсці — гэта актыўнейшыя формы пратэсту. Але мэта дасягаецца тады, калі ўдзел у іх прымаюць не дзесяткі чалавек, а тысячы, дзесяткі і сотні тысяч. Для гэтага трэба добра рыхтавацца, аб'ядноўваць сілы. І тут ёсць над чым задумацца лідэрам беларускіх партый, грамадскіх рухаў.

Што і казаць, нашы ўлады сваімі дзеяннямі (як эканамічнымі, так і палітычнымі) пашыраюць кола незадаволеных. Але тыя, хто прэтэндуе на лідэрства ў апазіцыі, не ўмеюць скарыстаць сітуацыю. Горкім урокам можа быць акцыя, абвешчаная "Маладым фронтам".

**Сяргей ІВАНОЎ.**

**БЕДА!**

## Элеонора Езерская — в реанимации

### *Вчера в 3-й клинической больнице Минска бывшей телеведущей сделали операцию.*

Накануне Элеонора почувствовала себя плохо. Она вызвала "скорую". В больнице ей поставили диагноз — прободная язва. Без операции обойтись было невозможно.

Операция длилась около трех часов. На время подписания номера газеты в печать Элеонора Езерская находилась в реанимации.

По словам заведующего хирургическим отделением 3-й клиники, кандидата медицинских наук **Николая Сивца**, случай был довольно тяжелый, болезнь протекала необычно.

Николай Федорович говорит, что причин возникновения прободной язвы много. И одна из них — **сильнейший стресс.**

В последние дни Элеонора Езерская очень сильно переживала из-за судебного иска руководителя Национальной государственной телерадиокомпании **Егора Рыбакова.** Два года назад в "Народной воле" она высказала критику в адрес Рыбакова. В сентябре этого года, т.е. через два года, Рыбаков потребовал с Езерской за "моральный ущерб" около десяти тысяч долларов. Такую же сумму выставил он и мне, а с "Народной воли" потребовал почти сто тысяч долларов.

Две недели назад Минский городской суд постановил, что Езерская должна выплатить в пользу Рыбакова три миллиона рублей. Таких денег у экс-ведущей, понятно, нет. Она сейчас нигде не работает и живет на нищенскую пенсию.

**Марина КОКТЫШ.**

## Лепей не будзе

61 працэнт кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў Беларусі лічаць, што ў бліжэйшыя два-тры месяцы эканамічнае становішча іх прадпрыемстваў не зменіцца. Пра гэта яны паведамілі вучоным Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі падчас экспертнага апытання, праведзенага ў кастрычніку 2003 года.

У ліку асноўных прычын, якія стрымліваюць вытворчасць, апытаныя назвалі недахоп абаротных сродкаў (68 працэнтаў), падатковую палітыку дзяржавы (55 працэнтаў), высокія цэны на сыравіну і матэрыялы (51 працэнт), нізкі плацежаздольны попыт (50 працэнтаў), а таксама неплацяжы спажыўцоў (46 працэнтаў). Кожны пяты рэспандэнт (29 працэнтаў) у якасці стрымліваючых вытворчасць прычын назваў недахоп абсталявання, 16 працэнтаў — умовы крэдытавання, 8 працэнтаў — недахоп кваліфікаваных кадраў.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ.**

## Даеш пластыкавыя карткі!

У трэцім квартале беларускімі банкамі эмітавана каля 170 тысяч пластыкавых картак. З улікам гэтага агульная колькасць банкаўскіх пластыкавых картак, што знаходзяцца ў абарачэнні ў краіне, перавысіла 900 тысяч. Такія звесткі паведаміў прэс-сакратар Нацыянальнага банка **Міхаіл ЖУРАВОВІЧ.**

Як паведаміў прэс-сакратар Нацбанка, цяпер з выкарыстаннем банкаўскіх пластыкавых картак у Беларусі магчыма ажыццяўленне аперацый у 1.723 прадпрыемствах гандлю і сервісу, у 437 банкаматах, у тым ліку 99 банкаматаў прымаюць банкаўскія пластыкавыя карткі розных сістэм разлікаў.

**Аляксей АРЭШКА.**

**ЗАПРАШЭННЕ**

## На 100-годдзе Наталлі Арсенневай!

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Саюз беларускіх пісьменнікаў запрашаюць усіх жадаючых на вечарыну, прысвечаную 100-гадоваму юбілею славутай беларускай паэткі Наталлі Арсенневай.

На вечарыне выступяць вядомыя беларускія паэты, пісьменнікі і даследчыкі: Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Лідзія Савік, Вольга Іпатава, Сяргей Панізьнік. Свае вершы пра Наталлю Арсенневу прачытае Валянціна Аксак. З песнямі на вершы Наталлі Арсенневай выступіць бард Аляксей Галіч, а вершы прагучаць у выкананні навучэнцаў Тэатральнай студыі Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа.

**Вечарына адбудзецца 27 лістапада (чацвер) а 18-й гадзіне ў бібліятэцы Дома літаратара (вул. Фрунзе, 5). Уваход вольны.**

**В ЗЕРКАЛЕ МИРОВОЙ ПРЕССЫ**

# Даже «хитрый лис» потерпел фиаско

### *Главная тема европейской прессы — ситуация в Грузии после отставки ее президента Эдуарда Шеварднадзе.*

Французская **"ЛИБЕРАСЬОН"** замечает: *"Шеварднадзе зашел настолько далеко, насколько возможно в присвоении власти".* Издание приветствует успех демократии, но предостерегает, что его не следует переоценивать, так как будущее страны весьма неопределенно. *"Корабль, которым капитан Шеварднадзе хотел управлять, идет ко дну",* — продолжает "Либерасьон", имея в виду подорванную экономику и тотальную коррупцию в Грузии. Газета с иронией пишет о ключевой роли, которую сыграл "бывший старший брат" в переговорах об отставке Шеварднадзе. *"Посеяв разногласия и сделав все, чтобы Грузия стала неуправляемой, Кремль проявил великодушие, чтобы стабилизировать ситуацию в конце игры",* — считает французское издание. Никто не забудет "жестокость" стремления России контролировать проходящие через Грузию нефтепроводы и укрепиться в роли феодала в кавказском регионе, заключает "Либерасьон".

Германская **"БЕРЛИНЕР ЦАЙТУНГ"** считает, что события в Грузии являются запоздалым ответом радикальным изменениям. Издание напоминает, что подтасовка на выборах также вызвала взрыв народного негодования в бывшей Восточной Германии, Литве и Сербии.

Власть Шеварднадзе в Грузии оказалась настолько подмыта со всех сторон, что почти сбылось пророчество одного революционера относительно другой власти: *"Стена — да гнилая. Ткни — и развалится",* — пишет **"МОСКОВСКИЙ КОМСОМОЛЕЦ"**. Ткнули — и развалилась. Но это не значит, что самопровозглашенная власть окажется прочнее. Впрочем, в отношениях с проблемными территориями многое будет зависеть от позиции России, считает газета. А она в лице главы своего внешнеполитического ведомства Игоря Иванова проявила вдруг мудрость и гибкость, которой от нее уже никто и не ждал. Чего стоило появление Иванова ночью на митинге оппозиции перед парламентом! Ведь это по сути означало, что руководство России признает протест людей против фальсификации выборов и других преступлений властей обоснованным и справедливым, пишет газета.

Комментируя интенсивное посредничество министра иностранных дел России Игоря Иванова между президентом Шеварднадзе и оппозицией, немецкая газета **"НОЙЕ ОСНАБРЮКЕР ЦАЙТУНГ"** пытается по горячим следам событий в Тбилиси определить место Грузии в региональной расстановке политических сил.

*"Хитрый лис" потерпел фиаско,* — пишет газета, — *президенту Грузии Эдуарду Шеварднадзе не осталось иного выхода, кроме как отдать власть. В этой кавказской стране завершился одиннадцатилетний период, отличительными чертами которого были коррупция, преступность, бедность и безнадежность. Шеварднадзе так и не смог ничего противопоставить постепенному разрушению некогда процветавшей советской республики. Его семья и доверенные лица обогащались, а необходимых реформ в стране не проводили.*

*Кремль молниеносно воспользовался исторической возможностью поддержать своих бывших братьев по СССР на Кавказе. Министр иностранных дел Игорь Иванов предложил себя в качестве посредника, конечно, не из ностальгических, а из экономических соображений. Геостратегически Грузия играет ключевую роль буферного государства между Россией и Ближним Востоком, а также транзитной страны при транспортировке каспийской нефти".*

Аналитики отмечают, что Аджария, Южная Осетия и Абхазия заняли негативную позицию к переменам в Тбилиси. Не является ли это следствием визита российского министра Иванова в Тбилиси и Батуми в те бурные дни? Ясно, что Россия попытается через эти регионы оказывать давление на новое руководство Грузии с целью загнать их в СНГ. В связи с этим британская газета **"ФАЙНЭНШЛ ТАЙМС"** пишет:

*"Наследникам Шеварднадзе предстоит нелегкая работа, чтобы предотвратить окончательный развал Грузии. Россия и США — основные внешние силы на Кавказе — должны помочь им. Для Москвы и для Вашингтона Грузия представляет существенный интерес как транзитная страна для транспортировки каспийской нефти.*

*Саакашвили и его коллеги поступили правильно, назначив новые выборы уже на ближайший срок и обратившись за поддержкой к преемникам Шеварднадзе. Грузия нуждается в правительстве, избранном демократически, на самой широкой основе и как можно быстрее. Только такое правительство будет обладать необходимым авторитетом вести переговоры с мятежными провинциями или могущественными криминальными кланами. В Москве многие склонны рассматривать Саакашвили в качестве марионетки США, но кремлевским лидерам не следует поддаваться соблазну и пытаться укрепить свое влияние в Грузии за счет ослабления позиций Саакашвили. В последние десять лет Россия проводила политику по принципу "разделяй и властвуй", подстрекая сепаратистов и удерживая свои военные базы в Грузии. Однако нестабильное положение привело к тому, что на территории Грузии окопались террористы. К вящему недовольству Москвы, Панкисское ущелье превратилось в убежище для чеченских боевиков.*

*Путину следовало бы признать, что России нет никакой пользы от такой политики, и уменьшить давление на Тбилиси. В свою очередь, преемникам Шеварднадзе следует принять к сведению, что наилучшей политикой для их небольшой страны, граничащей с сильным соседом, является мягкий, сдержанный курс.*

*Вашингтону также следует действовать осмотрительно и не подогревать страхи Москвы относительно роли Саакашвили. США и Россия в равной степени заинтересованы в мире и стабильности на Кавказе. Обеим державам следует взять курс на сотрудничество и не допустить еще одного деструктивного раунда борьбы за влияние в регионе".*



Несмотря на уничижительную критику методов правления, отказа Шеварднадзе от демократических ценностей и его полной неспособности решить проблемы страны, близкая к социал-демократам нидерландская газета **"ФОЛКСКРАНТ"** призывает по достоинству оценить то обстоятельство, что бывший президент Грузии ушел в отставку, не пытаясь силой воспротивиться свержению.

Швейцарская **"ТАГЕС АНЦАЙГЕР"** считает, что уход Шеварднадзе не изменит "фундаментальную стратегическую слабость" Грузии, к которой проявляют интерес Россия и Запад. *"Борьба за преобладание на Кавказе продолжится, несмотря на смену политической ситуации в Тбилиси",* — пишет издание.

**Алесь ДРАБЧУК.**
**Фото ByMedia.net**

*Радзім ГАРЭЦКІ*

# «Святая!»

## Да 110-годдзя Леанілы Чарняўскай-Гарэцкай

Калі Максім Гарэцкі ў красавіку 1919 года пачаў працаваць настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Першай Віленскай беларускай гімназіі, ён пачуў вельмі добрыя водгукі пра маладую таленавітую настаўніцу пачатковых класаў той жа гімназіі Леанілу Чарняўскую, якая рыхтавала сваю першую чытанку “Родны край”. Пазнаёміўся і быў уражаны: прыгожая, зграбная, з вялікімі сінімі-сінімі вачыма, якія свяціліся розумам і добразычлівасцю, пышнай касой, плаўнымі рухамі. А калі загаварыла, дык ён пачуў надзіва чыстую напеўную мову, меладычны грудны голас... Адразу вырашыў: “Гэта яна, адзіная... Павінна стаць маёй на ўсё жыццё!” 16 ліпеня яны абвянчаліся ў Прачысценскім саборы.

Леаніла Усцінаўна нарадзілася 16 лістапада 1893 года ў Таргунах Докшыцкага раёна Віцебшчыны ў сялянскай сям’і Усціна і Амілі Чарняўскіх, у якіх было шасцёра дзетак. Скончыла Вышэйшае Марыінскае вучылішча ў Вільні, займалася рэпетытарствам, настаўнічала ў сяле Залессе на Віленшчыне, падрыхтавала зборнік “Дзяціныя гульні”, пісала абразкі для дзетак (першае апавяданне “Мікітка”).

Якое творчае натхненне атрымаў малады пісьменнік ад сапраўднага глыбокага кахання! Шчаслівая сям’я, у якой муж і жонка мелі агульныя імкненні і цікавасць у педагагічнай дзейнасці і пісьменніцкай творчасці, у хуткім часе папоўнілася дзецьмі — Галяй, а пазней і Лёнем. Віленскі перыяд хаця і цяжкім быў з боку бытавых умоў, але адзін з самых творчых у жыцці гэтых пісьменнікаў і педагогаў.

Леаніла Чарняўская працавала над чытанкай “Родны край”, якая неаднаразова перавыдавалася і па якой вучыліся многія вучні. Яна падбірала найбольш выдатныя творы з сусветнай літаратуры, сама перакладала іх на беларускую мову. Максім дапамагаў у працы над “Родным краем”, а Леаніла — у падборцы матэрыялаў да максімавай манаграфіі “Гісторыя беларускай літаратуры”. У чытанку яна змясціла асобныя апавяданні М.Гарэцкага і ўрыўкі з іх, а таксама зусім новыя, такія, як “Бітва на Уле”, “Уцёкі Сярэбранага” і іншыя.

Вось як успамінае пра гэтую кніжку, па якой ён таксама вучыўся, Янка Брыль: “Танная шэра-шурпатая папера, няхітрыя графічныя малюнкі, усе тэксты ў густую падборку, — нібы вельмі вялікая сям’я сабралася ў беднай цясноце мужыцкай хаты. Аднак якая гэта дружная, разумная сям’я, — з якой любасцю да справы, з якім грунтоўным веданнем яе складзена гэтая кніжка!.. Тургенеў — ”Гора” (“Щи”), Чэхаў — “Ванька”, Гаршын — “Жаба-падарожніца” і “На полі бойкі” (урывак з апавядання “Чатыры дні”)... Ажэшка — “Рэха”, Тэтмаер — “Успаміны”, Канапніцкая — “Як кароль у паход выходзіў...”. Да рускіх і палякаў — сусветна любімы датчанін Андэрсен — “Каралеўская вопратка”, “Апошняя лекцыя” француза Дадэ, “Дарагія грошы” — украінскае, “Горкі смех” — габрэйскае... Туды, у гэтую цудоўную сям’ю, натуральна і раўнапраўна ўвайшло і наша роднае — Багушэвіч, Купала, Багдановіч, Колас, Бядуля, Цётка... Гэта адтуль заселі ў памяці майго сэрца “Воўк і авечка”, “Песня вайны”, “Слуцкія ткаллі”, “Ліпы старыя”, “Малітва малога Габрусіка”, “Міхаська”.

Гэта адтуль пачаўся і мой Гарэцкі, мая любоў да яго, спачатку больш інтуітыўная, відаць, з прадчуваннем таго, што прыйдзе пазней, са шчасліва сардэчнай, урыўкавай музыкай, таемна роднымі гукамі гэтага прадчування. Цяжка іх перадаць...”

У хаце маладых настаўнікаў часта гучалі музыка і песні. Максім імправізаваў на скрыпачцы, валодаў прыгожым мяккім барытонам, а Леаніла мела моцнае лірычнае сапрана і ведала многа народных песень — рускіх, украінскіх, польскіх і асабліва беларускіх. Спявалі паасобку і разам. Але Максім больш любіў моўчкі сядзець і слухаць задушэўныя, часцей сумныя беларускія песні, якія так цудоўна, з надзвычайным майстэрствам, як сапраўдная артыстка, выконвала жонка сваім чароўным, чыстым, мілагучным голасам. Пазней ад свекрыві сваёй, Еўфрасінні Міхайлаўны, яна навучылася і многім песням Мсціслаўшчыны, якія вельмі любіў Максім.

Але шчаслівае спакойнае жыццё для Гарэцкіх было нядоўгім, бо ў ноч з 19 на 20 студзеня 1922 года (Леаніла Усцінаўна была тады цяжарная сынам), польскія ўлады арыштавалі Максіма і пасадзілі ў адзіночку віленскай турмы “Лукішкі”. Была небяспека, што могуць расстраляць. Пра арышт літоўска-беларускіх дзеячаў многа пісалася ў газетах, а жонкі зняволеных нават надрукавалі пратэст, які падпісала і Леаніла Чарняўская. Толькі надзея на хуткае вызваленне мужа і клопат аб дзетках ратавалі яе. Супакойвала і вышыванне беларускіх арнаментаў, якія яна з ранніх гадоў умела рабіць і гладдзю, і крыжыка.

Потым, з 1923 года, быў Менск, Горкі, зноў Менск. Гэты перыяд яшчэ больш плённай пісьменніцкай і педагагічнай працы. Леаніла Усцінаўна шмат напісала: выйшлі творы для дарослых (“Падарожніца”, “Бяздзетухна”, “Валуй”, “Папова батрачка”, “Вясновыя хмаркі”) і для дзяцей (“Варка”, “Кот Знайдзён”, “Андрэйка”, зборнік “Лявонка”, “Сталёвы конь”; апавяданкі “Жук”, “На гародзе”, “Працоўныя мазалі” і інш.). Пераклала на беларускую мову “Гісторыю аднаго мядзведзя” Сэтана-Томпсана, “Бунт Моці-Гёджа” Кіплінга, “Каштанку” Чэхава, дапамагала М.Гарэцкаму перакладаць “У нетрах Усурыйскага краю” Арсеньева.

Гарэцкія сябравалі і сустракаліся з многімі пісьменнікамі, навукоўцамі і іх сем’ямі: Янкам Купалам, Якубам Коласам, Змітраком Бядулем, Уладзімірам Дубоўкам, Адамам Бабарэкам, Алесем Якімовічам, Юркам Гаўруком і іншымі. Часта бачыліся з бацькам, маці і роднымі Максіма.

Нармальнае жыццё і творчы ўздым зноў рэзка абарваліся ўлетку 1930 года: Максіма і яго брата Гаўрылу разам з многімі дзеячамі навукі і культуры арыштавалі, а праз год і саслалі. Максім Гарэцкі трапіў у Вятку (г.Кіраў), куды ў 1932 г. пераехала і яго сям’я. Леаніла Усцінаўна працавала там выхавацелькай у дзіцячым садку. Жылося вельмі цяжка і ў бытавым, і ў маральным сэнсе.

У 1935 годзе пасля сканчэння тэрміну высылкі М.Гарэцкі з сям’ёй пераехаў у Пясочню Смаленскай вобласці, дзе настаўнічаў у сярэдняй школе. У 1937-м — падчас найбольшага ўздыму сталінскіх рэпрэсій, калі дабівалі недабітых “ворагаў народа”, Максім Гарэцкі адчуваў небяспеку, вельмі непакоіўся і ўвесь час думаў, што будзе з сям’ёю. Маглі арыштаваць не толькі яго, але і жонку. Ён нават прапанаваў Леаніле Усцінаўне падаць на развод, шукаць працу ў Смаленску або вярнуцца ў Вятку. Яна адмовілася. У тыя дні, як успамінае Галіна Максімаўна, тата аднойчы падазваў яе да сябе і, паказаўшы на другі бок вуліцы, па якому ішла яе мама, сказаў: “Запомні — яна святая!” І паўтарыў: “Святая!” У канцы кастрычніка Максіма Гарэцкага арыштавалі і, як адносна нядаўна стала вядома, ужо 10 лютага 1938 года расстралялі ў г.Вязьме. Леаніла Чарняўская так і не даведалася праўды пра расстрэл мужа, бо раней атрымала ад НКУС хлуслівую даведку аб яго смерці нібыта ад кровазліцця ў мозг 20 сакавіка 1939 года ў пасёлку Вожаель (КоміАССР).

Няўцешнае гора зноў звалілася на гэтую мужную жанчыну, калі 18 лютага 1944 года загінуў на фронце яе любы сын Лёня.

У 1947 годзе Леаніла Усцінаўна выйшла на пенсію, пераехала ў Ленінград, дзе жыла разам з дачкою. Пакуты жыцця зрабілі сваю справу: апошнія восем гадоў яна была поўнасцю прыкутая да ложка. Фізічна нямоглая, яна захавала яснасць думкі і паспела напісаць успаміны, якія выйшлі з друку ўжо пасля яе смерці (26 верасня 1976 г.): “Як складалася кніжка народных песень” (1984), “Памятка” (1990), “Успаміны пра знаёмства і сустрэчы з Якубам Коласам”, “Памяці сына” (1994). Пасмяротна былі надрукаваны дзве яе кніжкі: “Казёл Мэка і Кудла. Апавяданні” (1979) і “Апавяданні” (1983). У часопісе “Полымя” было змешчана апавяданне “Кутніца” (1994).

У канцы жыцця вялікай радасцю для Леанілы Усцінаўны было з’яўленне ў друку шэрагу твораў Максіма Гарэцкага, чыю літаратурную спадчыну яна разам з дачкою беражліва захоўвала, а таксама лісты з фронту сына Леаніда ў часопісах “Маладосць” (1974, № 9) і “Юность” (1975, № 4). Вялікае каханне і шчырая падзяка за яго свайму адзінаму абранніку, падараваўшаму ёй гэтае цудоўнае пачуццё, якое саграбала светлымі ўспамінамі яе слабое сэрца, прымусілі незадоўга перад смерцю прызнацца: “Ніколі, ні разу не пашкадавала, што выйшла замуж за Максіма, хоць і нялёгкім аказаўся мой лёс”.

## ШАШКІ

### Конкурс за конкурсам

У нас з’явілася магчымасць правесці і **класіфікацыйны конкурс-13** — гэтым разам на прызы масквіча Уладзіміра Матуса, міжнароднага гросмайстра па шашачнай кампазіцыі, нашага земляка. Шэсць пераможцаў атрымаюць ад яго кнігі пра шашкі. Ім будзе адзначаны і суддзя конкурсу.

Усяго будзе 12 заданняў. Норма другога разраду — рашыць усе заданні, трэцяга — набраць 67 працэнтаў ачкоў.

За знаходжанне пабочных рашэнняў альбо доказ, што пазіцыя не развязваецца, налічваюцца дадатковыя ачкі.

А зараз падаем першае заданне — камбінацыйную мініпраблему У.Матуса:

**Белыя:** b2, g3, h2, h4, h6 (5).

**Чорныя:** a3, d4, e3, e5, e7 (5).

**Выйгрыш** (адно ачко).

Тэрмін для адказаў — традыцыйныя два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты “Народная воля”, “Шашкі”.**

Паколькі класіфікацыйныя конкурсы-12 і 13 розныя, рашэнні іх заданняў прысылайце ў адным канверце, але на асобных лістках паперы.

Да ўдзелу ў конкурсах запрашаюцца ўсе жадаючыя. Зычым поспеху!

### Супаставім рашэнні

Праверце, калі ласка, рашэнні пазіцый, змешчаных 16 кастрычніка.

**“Дзве камбінацыі адразу”** (Л.Вітошкін): f6, f8 (gf2, f2) d8 (e1).

Утварыўся эцюд Л.Вітошкіна (Анталогія эцюдаў-64, ч.5, д.50). Далей праводзяцца дзве камбінацыі: h4 (a5 A) gf2, e1, fb4, d8x. A (g5) d8 (e3-d2) f2 (h4) cb6, e1x.

**Па-за конкурсам** (Л.Вітошкін): №1 — e3, d2, c3, c3 (g5) d8 (b4 A) h4, f2x. A (f6) cd4, f4x; №2 — g7 (e5 A) f4, f4 (b4 B) e5 (f4) e3 (f2) a3x. A (f6) e3, hg3, c5/a3x. B (e3) c3, b4, h4x.

**Рашылі:** Ю.Ліпскі, У.Сапяжынскі, В.Астрынскі, П.Ніканові́ч, М.Андрушчанкаў, А.Белы, В.Грабенка, А.Янчук, П.Чэрнак, А.Ашыхмін, М.Гардзіеўскі, С.Супрунюк, В.Масквіч, А.Кагоцька, В.Бялоў, В.Собаль, Ф.Хадачынскі, П.Елісееў, А.Іванькоў, Г.Логвінаў, Р.Пагнаеўскі, В.Дзялендзік, І.Працук, П.Каролік, Ч.Сінкевіч, М.Падбярэзскі, А.Чумакоў, В.Касцян, У.Захарчук, Л.Жыхар, В.Казарэвіч, У.Голуб, В.Міклашэўскі, У.Мазанік, М.Гофман, І.Калякоў, А.Сапегін, В.Краўчук, Д.Камчыцкі, Л.Пасвісцелік, Ч.Якубоўскі, Л.Мінчук.

### Чэмпіянат Беларусі

Рэспубліканскі шахматна-шашачны цэнтр прымаў звыш 130 удзельнікаў маладзёжнага чэмпіянату краіны па шашках-64 і 100. На малай дошцы ў сваіх намінацыях лепшымі сталі: у юніёраў — Віталь Гальцоў (Віцебск), у кадэтаў — Уладзімір Ланец (Ваўкавыск), сярод юніёрак — Анастасія Стасючонак (Віцебск) і кадэтак — Вольга Сурмач (Гродна). На вялікай жа дошцы вызначыліся Ігар Міхальчанка (Ваўкавыск) і Андрэй Толчыкаў (Гомель), мінчанка Наталля Гарэлая і Людміла Журбіцкая з Ваўкавыска.

— У турніры па шашках-64 кандыдат у майстры спорту Дзмітрый Шымакоў (Гомель) і майстар Сяргей Алейнікаў (Хоцімск) набралі, як і чэмпіён — майстар В.Гальцоў, па 14 ачкоў з 18 магчымых, але ж па дадатковых паказчыках падзялілі другое—трэцяе месцы, — дадае наш карэспандэнт Вільям Астрынскі. — Упартая барацьба была і ў юніёрак: усяго на адно ачко ад А.Стасючонак, якая запісала на свой рахунак 14 ачкоў, адсталі таксама кандыдаты ў майстры спорту Кацярына Шпакава (Віцебск) і Ганна Барысік (Слонім).

### Кубак Мінска

За яго змагаліся каля 50 прыхільнікаў шашак-64. Як паведаміў той жа В.Астрынскі, лепшы вынік (15 ачкоў з 18) паказаў міжнародны гросмайстар Аркадзь Плакхін. Другім быў кандыдат у майстры спорту Барыс Абрамаў (13). Шэсць удзельнікаў запісалі ў свой актыў па 12 ачкоў. Аднак трэці прыз дастаўся майстру спорту Святлане Гілеўскай. Яна пацясніла майстроў: па каэфіцыенце — В.Варушылу, Я.Бельскага і А.Майсеева, а па ачках — В.Палянскага, Наталлю Герасімовіч і М.Курыловіча.

### З нізкі кампазіцый

**1** (Уладзімір Захарчук, Слонім). **Белыя:** a7, d2, d6, e1, f2, f4, g3 (7).

**Чорныя:** a5, b2, b4, b8, d8, h4, h6 (7).

c7 (d6) fe3, g5, e3, c7, c1x.

**2** (Уладзімір Мазанік, Мінск). **Белыя:** c7, d4, e3, e5, f4, g1, h4 (7).

**Чорныя:** b2, b4, c3, f2, f6, g7 (6).

hg5, f6 (g:g3) b8, h2, g3, c1x.

**3** (Руслан Пагнаеўскі, Жлобінскі р-н). **Белыя:** b2, e1, f2, f6, g1, g5 (6).

**Чорныя:** дамка a1, простыя c3, d4, g7, h8 (5).

h6, e3, f6, f8x.

**4** (Аляксандр Ляхоўскі, Жодзіна). **Белыя:** a7, b6, c5, d6, e7, f6, h2 (7).

**Чорныя:** b2, b8, d2, f4, g3, h4, h8 (7).

g7, dc7, b6, g5, f4x.

**5** (Леанід Жыхар, Мядзельскі р-н). **Белыя:** c1, c3, d4, e3, e5 (5).

**Чорныя:** a3, b6, c7, d6, g5 (5).

f4, b4, b8 (e3) a7 (a5) f2/g1x.

Кожную кампазіцыю дасылайце на асобным аркушы паперы з рашэннем і пажадана — на дыяграме, а не толькі ў натацыі. Гэта паспрыяе таму, што яна хутчэй будзе намі разгледжана.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ, майстар спорту.**

## ШАХМАТЫ

### 5-й шахматный конкурс

Публикуем очередные задания

**Задание №7**

**Белые:** Крe7, Фс3, Лg8, Ke1, Kg3, п. d4 (6).

**Черные:** Крf4, Ca8, Kb3, Kg1, пп. c4, c5 (6).

**Мат в 3 хода.**

За правильное решение задания №7 засчитывается **3 очка.**

**Задание №8**

**Белые:** Крf3, Фb8, Лg1, Ke2, Kg3 (5).

**Черные:** Крc6, п. f5 (2).

**Мат в 3 хода.**

За правильное решение задания №8 засчитывается **3 очка.**

**Задание №6 (повторно)**

**Задачу следует решать при черной пешке на a5 (вместо a6).**

**Белые:** Крd2, Фb8, Лd6, Лg1, Ce7, Ch7, Kc5, Ke5, пп. d7, g4 (10).

**Черные:** Крf4, Ca2, Cg7, Kc1, пп. a5, b3, c7, g5 (8).

**Мат в 2 хода (2 очка).**

Свои ответы на конкурсные задания присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты “Народная воля”, “На 5-й шахматный конкурс”.**

### Ананду нет равных

Во Франции проходил чемпионат мира по быстрым шахматам, в котором, за исключением Каспарова, приняли участие все сильнейшие шахматисты. Соревнования проводились в два этапа. Сначала прошли два отборочных турнира, в каждом из которых играли по 8 гроссмейстеров. По 4 победителя выходили в финальный этап, проводившийся по нокаут-системе: матчи с выбыванием проигравшего. В первой группе наиболее успешно выступили чемпион мира Владимир Крамник (Россия), чемпион мира ФИДЕ Руслан Пономарев (Украина) и молодой французский гроссмейстер Этьен Бакро, набравшие по 4,5 очка из 7. На очко от них отстали Борис Гельфанд (Израиль) и Веселин Топалов (Болгария). На тайбрейке, где определялся четвертый финалист, Топалов сумел выиграть у соперника.

Во второй группе победителем стал чемпион России Петр Свидлер — 5 очков из 7. На пол-очка от него отстал москвич Александр Грищук. По 4 очка набрали Вишванатан Ананд (Индия) и Юдит Полгар (Венгрия). По 3,5 очка в активе Алексея Широва (Испания) и Петера Леко (Венгрия). У француза Жоэля Лотье — 2 очка. Сенсацией стал результат экс-чемпиона мира россиянина Анатолия Карпова, замкнувшего турнирную таблицу с 1,5 очка из 7. Прославленный чемпион на этот раз был явно в плохой форме, из 7 партий он 3 свел вничью и 4 проиграл.

В четвертьфинале В.Крамник выиграл у Ю.Полгар со счетом 1,5:0,5. С таким же результатом В.Ананд взял верх над Р.Пономаревым, П.Свидлер над В.Топаловым. Упорным было соперничество между А.Грищуком и Э.Бакро. Основные партии матча не дали перевеса ни одному из соперников — 1:1. Но на тайбрейке успех сопутствовал россиянину — 2:0.

В полуфинальном матче чемпион мира В.Крамник убедительно выиграл у А.Грищука — 2:0. Трудную победу одержал Ананд над Свидлером. Основные партии поединка закончились со счетом 1:1. И лишь в дополнительных партиях индус добился минимального перевеса — 1,5:0,5. Таким образом звание чемпиона мира разыграли главные фавориты — Владимир Крамник и Вишванатан Ананд. В первой партии финального матча Крамник, игравший белыми, не сумел получить преимущества и уже на 19-м ходу была зафиксирована ничья. Зато во второй встрече Ананд в сицилианской защите захватил инициативу и добился красивой победы. Вот как развивались события.

### В.Ананд— В.Крамник

1.e4 c5 2.Kf3 Kc6 3.d4 cd 4.K:d4 Kf6 5.Kc3 e5 6.Kdb5 d6 7.Cg5 a6 8.Ka3 b5 9.C:f6 gf 10.Kd5 f5 11.Cd3 Ce6 12.c3 Cg7 13.Фh5 o-o 14.o-o f4 15.Лfd1 Лb8 16.Kc2 Фd7 17.h3 a5 18.Ka3 b4 19.Kb5 bc 20.bc Ke7 21.Kdc7 Лbc8 22.K:e6 fe 23.a4 Kph8 24.Cc2 Лc6 25.Лd2 Kc8 26.Лad1 Фe7 27.Cb3 Лf6 28.c4 Лh6 29.Фf3 Cf8 30.c5! Л:c5 31.K:d6 K:d6 32.Л:d6 Ф:d6 33.Л:d6 C:d6 34.Фd3 Лc6 35.Фb5 Лc1+ 36.Kph2 Лf6 37.Фe8+ Cf8 38.C:e6 f3 39.g4 Лf1 40.Kpg3 Лg1+ 41.Kph4 Kpg7 42.g5 Лf4 43.Kph5 Лg2 44.Cf5 Л:f5 45.ef Л:f2 46.Ф:e5+. **Сдался.**

Эта победа принесла индийскому гроссмейстеру золотую медаль чемпиона мира и солидный приз.

Через короткое время еще один крупный турнир по быстрым шахматам прошел на Корсике (Франция). И здесь сильнейшим снова был Ананд. В полуфинале он обыграл Александра Грищука — 1,5:0,5. А в финале встретился с Веселином Топаловым, который перед этим обыграл Алексея Широва. Борьба в финале была очень упорной. Основные партии не дали перевеса ни одному из гроссмейстеров — 1:1. Но в блице успех сопутствовал индийскому чемпиону — 1,5:0,5. Всего же в соревнованиях на Корсике приняли участие 173 шахматиста, среди которых было 33 гроссмейстера.

Новому чемпиону мира по быстрым шахматам Вишванатану Ананду в декабре исполнится 34 года. В мировом рейтинг-листе по классическим шахматам он уверенно держит третью строчку, уступая лишь Гарри Каспарову и Владимиру Крамнику. Однако разрыв между лидерами и Анандом в этом году неумолимо сокращается.

# Живи и дай жить другим

## 1 декабря — Международный день борьбы со СПИДом

*Сегодня в мире живет 33,4 миллиона ВИЧ-инфицированных. Ежедневно заражается ВИЧ 16 тысяч человек. С начала распространения эпидемии (конец 70-х годов) от СПИДа умерли 13,9 миллиона человек. В мире насчитывается 8,2 миллиона сирот, родители которых умерли от СПИДа, а 460 тысяч детей умерли в возрасте до 15 лет.*

### Откуда он взялся?

История возникновения вируса иммунодефицита человека (ВИЧ) до сих пор остается загадкой. По мнению Роберта Галло, ВИЧ возник очень давно в группах коренного населения Африки. Экономическое освоение территорий, расширение контактов и миграция населения способствовали распространению инфекции на другие группы населения.

Некоторые ученые склоняются к мысли, что вирус иммунодефицита человека имеет искусственное происхождение. Тем не менее объективных или документальных доказательств такого происхождения вируса нет.

ВИЧ вызывает инфекционное заболевание, которое протекает с поражением жизненно важных клеток защитной системы организма. Размеры ВИЧ очень малы — на линии в один сантиметр может разместиться до 100.000 вирусных частиц. При рассмотрении в электронный микроскоп вирус напоминает экзотической цветок.

Попадая в организм человека, ВИЧ избирательно поражает лимфоциты (Т-хелперы), которые стимулируют реакции клеточного иммунитета. ВИЧ проникает в ядро клетки и “встраивается” в ее ДНК. С этого момента он становится частью наследственного аппарата клетки. То есть первоначально ВИЧ вызывает дисфункцию иммунной системы, а затем полностью выводит ее из строя. У инфицированных ВИЧ развиваются различные воспалительные процессы, злокачественные новообразования, приводящие к летальному исходу. Это заболевание носит название ВИЧ-инфекция и имеет несколько стадий. Последняя называется СПИД.

**Первая стадия** — острая инфекция. Протекает, как “гриппоподобное заболевание” (повышение температуры, насморк, кашель, сыпь на коже). Спустя 2—3 недели острый период проходит. Человек, не зная о наличии вируса, может заражать других.

**Вторая стадия** — асимптомная инфекция (АИ). Полное отсутствие клинических проявлений ВИЧ-инфекции.

**Третья стадия** — возникает через 3—5 лет после второй стадии. На фоне снижения защитных сил организма возникают различные симптомы болезни: увеличение лимфатических узлов, головные боли, расстройства кишечника, упадок сил. Лечение дает кратковременное улучшение.

**Четвертая стадия** — пре-СПИД и собственно СПИД. По мере развития заболевания иммунная система полностью разрушается. Организм не в состоянии бороться не только с патогенными, но и с обычными микробами, живущими в легких, кишечнике. Смертельный исход неизбежен. От момента заражения до смертельного исхода проходит 10—12 лет.

### Как он распространяется?

Различают три пути передачи ВИЧ-инфекции.

— через кровь (это может быть при совместном использовании загрязненных игл и шприцев);

— при употреблении наркотика, зараженного вирусом;

— при использовании нестерильного инструментария для нанесения татуировок или пирсинга;

— при совместном использовании маникюрных или бритвенных принадлежностей;

— существует вероятность заражения при переливании инфицированной крови и ее препаратов.

И наконец, третий. От ВИЧ-инфицированной матери ребенку во время беременности, родов и кормления грудью. Вероятность передачи ВИЧ-инфекции новорожденному составляет 30—45%.

*Вирус иммунодефицита человека не передается:*

— при дружеских объятиях и поцелуях;

— при пользовании столовыми приборами и постельными принадлежностями;

— через рукопожатие;

— в общественном транспорте;

— насекомыми;

— воздушно-капельным путем.

Риск заражения ВИЧ значительно снижается при сексуальном контакте с использованием презерватива, при использовании стерильных игл, шприцев, индивидуальных маникюрных и бритвенных принадлежностей.

Угрозу ВИЧ нельзя недооценивать; как бы ни были дороги профилактические мероприятия, они гораздо дешевле лечения уже заболевших.

Какую бы поддержку общество и государство ни оказывало больному человеку, трудно передать, что испытывает он, узнав о своем диагнозе: “У вас обнаружили ВИЧ...”. Помните об этом, общаясь с людьми. Доброта, отзывчивость, чуткость и понимание одинаково необходимы и больным, и здоровым членам общества.

**Елена БОНДАРЕНКО, врач 7-й стоматологической поликлиники Минска.**

**27**

**лістапада**

**ЧАЦВЕР**

Усх. 7.59 Зах. 15.56
Даўж. дня 7.57
Маладзік
24 лістапада

**100 гадоў з дня нараджэння П. С. Пестрака (1903—1978), беларускага пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры БССР**

Чытайце нас у Інтэрнеце: http:// nv.promedia.by

## Четверг, 27 ноября

**БТ**

**07.00, 8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 8.10** “Доброе утро, Беларусь!” Информационно-музыкальная программа.
**08.45, 16.45, 20.45, 23.25** “Моя страна”.
**09.05** Авантюрно-исторический сериал **“Саломея”** (Россия).
**10.10, 17.05** Сериал **“Тайны четырех преступлений”** (Италия). Фильм 4-й **“Похороны вместо свадьбы”.** 1-я серия.
**11.10** Детективный сериал **“Нож в облаках”** (Россия). 3-я серия.
**12.20** Мелодрама **“Господин оформитель”** (Россия).
**14.15** “Точка”. Музыкально-развлекательная передача для молодежи.
**15.10** Приключенческий сериал **“Амазонка”** (Канада—Германия).
**16.05** “5x5”. Программа для молодежи.
**18.10** Детективный сериал **“Нож в облаках”** (Россия). 4-я серия.
**19.10** Боевик **“Шанхайский связной”.** (Гонконг).
**21.00** “Панорама”. Информационный канал.
**21.40** Детектив **“Рикошет” (США).**
**23.40** “Клип-обойма”.
**23.50** “Новая коллекция” Олега Лукашевича. “Кутюрье Вивьен Вествуд, Соня Рикель”.

**ОНТ**

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.25** Наши новости.
**08.05** Телеканал “Доброе утро”.
**09.05, 19.05 “Земля любви, земля надежды”.** Сериал.
**09.45** Детектив **“Повторный просмотр”.**
**11.00** Дисней-клуб. “Чудеса на виражах”.
**14.45** “Город женщин”. Телевизионное шоу.
**15.35, 23.45** “Фабрика звезд-3”.
**15.55** “Угадай мелодию” с Валдисом Пельшем.
**16.20** Сериал **“Берег мечты”.** 63-я серия.
**17.05** “Большая стирка” с Андреем Малаховым.
**18.15** Ток-шоу “Окна” с Дмитрием Нагиевым.
**20.00** Время.
**21.05 “Нина”.** Сериал. 8-я серия ( заключительная).
**22.15** Боевик **“Родина ждет”.** 4-я серия.
**00.05** “Человек и закон” с Алексеем Пимановым.

**РОССИЯ**

**07.45, 19.55** Телесериал **“Линии судьбы”.**
**08.45** Комната смеха.
**09.45** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 19.00** Вести.
**18.00** Выборы-2003.
**19.30** Местное время. Вести-Москва.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**21.00** Телесериал **“Оперативный псевдоним”.**
**22.00** Вести+.
**22.20** “Исторические хроники” с Николаем Сванидзе. **“199. Азеф”.**
**23.15** Народный артист.

**ЛАД**

**07.00, 14.00, 20.00** Новости.
**07.10** “Сын камня”, “Крашеный лис”. Мультфильмы.
**07.40** “Бюро находок”. Иронические зарисовки.
**08.05, 22.15** Сериал **“Петербургские тайны”** (Россия).
**09.00** “Площадь искусств”. “Любите ли вы театр...” Часть 1-я.
**09.30** “Здоровье”. Тележурнал.
**10.00** “Между нами, женщинами”. Тележурнал.
**10.20, 21.15** Детективный сериал **“Приключения Шерлока Холмса”.**
**11.15, 13.20** “Обычный необычный день”. Семейный канал.
**11.50, 18.25** Художественный фильм **“Атланты и Кариатиды”.**
**13.45** “Жил-был пес”, “Уроки тетушки Совы. Азбука-малышка”. Мультфильмы.
**14.10** Мультиклуб.
**15.05** Приключенческий сериал для детей **“Собачья жизнь”.**
**15.25** “Кузнец-волшебник”. Мультфильм.
**15.45** “Не зевай!” Телеканал для детей.
**15.55** Тележурнал для школьников “Бум”.
**16.25** “Когда же пойдёт снег”. Молодежный телевизионный спектакль.
**17.25** Видеофильм **“Осень”** (“Белвидеоцентр”).
**17.30** Спектакль Национального театра оперы и балета “Кармина Бурана”. Музыка К.Орфа (“Белвидеоцентр”).
**20.15** Колыбельная.
**20.30** “Дела семейные”.

**НТВ**

**09.00** Сегодня утром.
**09.25** Квартирный вопрос: стенка на стенку.
**10.15** Ток-шоу “Страна советов”.
**11.00, 16.00** “Сегодня” с Кириллом Поздняковым.
**14.35** “Бюджетное рабство”. Ток-шоу “Принцип домино”.
**16.30** Сериал **“Она написала убийство”** (США).
**17.35** “Делайте ваши ставки...” “Профессия — репортер”.
**18.00** “Сегодня” с Татьяной Митковой.
**18.35** Сериал **“Агентство ”Золотая пуля”. Дело о бронзовом всаднике”.**
**19.45** Остросюжетный сериал **“Черный ворон-2”.** 22-я серия.
**21.00** “Страна и мир”. Главные события дня.
**21.35** Красная стрела.
**21.50** “К барьеру!” Ток-шоу Владимира Соловьева.
**23.05** К юбилею Б.Гребенщикова. Премьера. “БГ. Первый полтинник”.

**СТВ+RenTV**

**06.25, 15.25 “Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры”.** Телесериал.
**06.50** “Трансформеры”. Мультипликационный сериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** “24 часа”.
**07.50** “СТВ-спорт”.
**08.05, 18.05** “Минщина. Люди, события, факты”.
**08.25, 23.05** “Технология”.
**08.40** Боевик **“Мертвая хватка”.**
**10.05** “Судьбы своей хозяйка”.
**10.25** “Фильм, фильм, фильм”.
**10.40** “Портрет в интерьере”. Татьяна Мушинская, поэтесса.
**10.55** “Проект ”Отражение”: “Индийская защита”. Документальный фильм.
**11.25** “Дикая планета”: “Новые заповедники”. Документальный фильм.
**12.00 “Истинная любовь”.** Теленовелла.
**12.55** “Все для тебя”.
**13.55, 18.30 “NEXT-3”.** Телесериал.
**15.00** “Супершоу братьев Марио”. Мультипликационный сериал.
**15.50** “Маска”. Мультипликационный сериал.
**16.15** “Добро пожаловаться...”.
**16.50** Детектив **“Колье Шарлотты”.** 2-я серия.
**18.15** “Театральные истории”.
**20.00** “СТВ-спорт”.
**20.15** “Тема дня”.
**20.25** Детский экран. “Добрый вечер, малыш...”.
**20.40** “Фильм, фильм, фильм”.
**20.55** Боевик **“Опасные особи”.**
**23.15** “Новости СНГ”.
**23.30** “Новости мировой шоу-индустрии”.
**00.20** Детективный триллер **“В сетях порнобизнеса”.**

**8-Й КАНАЛ**

**17.30** “Мультпарад” от “Бюргера”
**17.45** Художественный фильм **“Воздушные террористы”.**
**19.15** Программа “Палитра”.
**19.40** “Атомик Филмз” и “К-видео” представляют...
**19.45** Многосерийный фильм **“Клуб самоубийц”.**
**20.45** “Вечарніца”
**21.00** Программа “У камина в Камянице”
**21.30** Криминальная драма **“Счастливые случаи”.**

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45** Информационно-развлекательный канал “Настроение”.
**07.50** Газетный дождь.
**08.00** Россия: выдающиеся разведчики XX века.
**08.30 “Времена не выбирают”.** Многосерийный телефильм.
**09.25** Наш сад.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал “Дата”.
**11.20** Особая папка.
**11.50** Игра в прятки.
**12.05** Доходное место.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 “Инспектор Кестер”.** Детективный сериал (Германия).
**14.20** Экспо-новости.
**14.30** Мода non-stop.
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30 “Расследование Элоизы Ром”.** Телесериал (Франция).
**16.30** Служебный вход.
**17.15** Дом на набережной.
**18.00 “Разлученные”.** Телесериал (Мексика).
**18.40** Экспо-новости.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Выборы-2003.
**20.00 “Мужская работа-2”.** Телесериал (Россия).
**21.40** Выборы мэра города Москвы.
**21.45** Наша версия. Под грифом “Секретно”.
**22.30** Времечко.
**23.00** Петровка, 38.
**23.20** 25-й час. События. Время московское.
**23.40 “Жажда мести”.** Телесериал (Великобритания).
**00.40** “Синий троллейбус”. Телефон доверия для полуночников.
**01.05 – 01.40** “БГ на Дубровке”. Из архива программы “А”.

**EUROSPORT**

**09.30** Олимпийский журнал. Повтор.
**10.00** Тяжелая атлетика. Чемпионат мира. Канада. Повтор.
**12.00** Снукер. Чемпионат Великобритании. Йорк. Повтор.
**14.00** Бокс. Повтор.
**16.00** Снукер. Чемпионат Великобритании. Йорк. Прямая трансляция.
**19.00** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Квалификация.
**20.00** Бокс. Повтор.
**21.00** Снукер. Чемпионат Великобритании. Йорк. Прямая трансляция.
**23.45** Футбол. Кубок УЕФА. Спецобзор.
**01.00** Футбол. Кубок УЕФА. Классик.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

Рэдактар нумара Марыя ЭЙСМАНТ



Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП “Красная звезда”, 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб’ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 670 экз. Заказ № 845.